№ 100 (682)
Субота, 5 чэрвеня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



## Адкрыты запыт

### Выканаўчага бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) да прэзідэнта Беларусі

***30 мая 1999 года ў Мінску адбылася трагедыя, якая назаўжды ўвойдзе знакавай падзеяй у гісторыю Беларусі, застанецца ў значнай меры характэрнай рысаю нашага часу. Безумоўна, усе акалічнасці будуць высветлены, бо боль за абарваныя жыцці нашых суграмадзян, сорам за дзяржаву не дадуць нікому спакою. Толькі праўда, горкая праўда без дэмагогіі патрэбна сёння людзям. Таму накіроўваем да Вас, спадар прэзідэнт, пытанні, адказы на якія прагне атрымаць (наколькі нам вядома) беларускае грамадства:***

1. Чаму прэзідэнт Беларусі яшчэ да расследавання, якое распачала пракуратура, заявіў, што не трэба нікога абвінавачваць у гібелі 52 чалавек у цэнтры сталіцы? Што прычынай усяму толькі стыхія? Не магутны ўраган, не землятрус, а ўсяго толькі навальніца — гром, град ды лівень?

2. Чаму ўлада хавае праўду аб тым, што шмат маладых людзей, у тым ліку непаўналетніх, былі ўцягнуты ў мерапрыемства па рэкламе піва і цыгарэт і такім чынам сталі ахвярамі трагедыі, што навокал вольна прадаваліся спіртовыя напоі?

3. Чаму мінская міліцыя аказалася непадрыхтаванай да адпаведных дзеянняў у надзвычайнай сітуацыі, чаму прысутныя на арганізаваным радыёстанцыяй "МІР" рэкламным мерапрыемстве міліцыянты і ваеннаслужачыя ўнутраных войскаў, якія павінны былі падтрымліваць там грамадскі парадак, не атрымалі своечасовага загаду па недапушчэнні небяспечных падзеяў?

4. Чаму на ахове прэзідэнцкіх рэзідэнцый, картэжаў і ваяжаў задзейнічана міліцыі больш, чым пры забеспячэнні грамадскага парадку ў сталіцы?

5. Хто з адказных асоб (міністр унутраных спраў, старшыня Мінгарвыканкама, начальнік мінскай міліцыі) нясе службовую адказнасць за адбыўшуюся трагедыю?

6. Хто павінен несці маральную і прававую адказнасць за бездухоўнасць, якая разрастаецца ў грамадстве, і праявы якой сталі, па сутнасці, галоўнай прычынай хуліганскіх паводзін часткі маладых людзей, што і прывяло да гібелі ў натоўпе найслабейшых?

## Мы з вамі!

З вялікім болем даведаліся ўсе мы аб няшчасці на святкаванні ўгодкаў радыёстанцыі "МІР" у Мінску. Страта больш пяцідзесяці маладых жыццяў — гэта трагедыя для ўсяго нашага народа. Да таго ж яна поўнасцю бессэнсоўная.

Ад імя сяброў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі выказваю спачуванні сем'ям і прыяцелям тых, хто загінуў. Хай Бог вам памагае перажыць гэтае няшчасце. Думкамі мы з вамі.

**Івонка СУРВІЛЛА,**
**старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

## За што?

Да месца трагедыі, уваходу на станцыю метро "Няміга", падышла група моладзі з нацыянальна-гістарычным сцягам. Але сцяг з чорнай стужкай рэяў нядоўга. Аднекуль выскачылі міліцыянеры, вырвалі сцяг, скруцілі хлопца і некуды павалаклі. Дзейнічалі яны надзвычай спрытна і хутка.

— Вось каб так дакладна і рашуча ды дзейнічалі яны ў той трагічны дзень, колькі жыццяў маглі б выратаваць, — цяжка ўздыхнула жанчына, гледзячы ўслед міліцыянерам, якія цягнулі хлопца.

— А іх жа не вучаць ратаваць людзей! Іх вучаць вырываць з рук бел-чырвона-белыя сцягі ды збіваць людзей, — дадаў юнак. — Вось гэта яны ўмеюць.

**На здымку:** *моладзь з бел-чырвона-белым сцягам на месцы трагедыі.*

**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

*Прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса ўскладаюць кветкі на месцы трагедыі.*
**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

Точка зрения

## Нет, это не дикая случайность

В СТРАНЕ загадочным образом бесследно исчезают видные люди.

В СТРАНЕ отправляют за тюремную решетку престарелого дважды Героя Социалистического Труда.

В СТРАНЕ втайне от родственников и журналистов судят людей, которым инкриминируют покушение на главу государства.

В СТРАНЕ заключен под стражу бывший глава правительства.

В СТРАНЕ торжествует беззаконие.

Не ищите название этой страны на географических картах Латинской Америки или Африки. Она значительно ближе — в самом центре Европы. Имя ее — БЕЛАРУСЬ.

Разум отказывается верить — неужели перечисленные и неназванные события происходят в нашей тихой, памяркоўнай республике? Неужели у нас главным в политике властей стали расправы над инакомыслящими, необузданное насилие и нескрываемая ненависть? Сейчас все официальные чиновники говорят о трагедии. Вот и Александр Лукашенко утром 31 мая, примчавшись в сопровождении машин с мигалками к месту страшной трагедии, заявил: произошедшее было "дикой случайностью", органы правопорядка в этой ситуации сделали все от них зависящее.

Гражданская совесть не позволяет согласиться с таким утверждением. Наоборот, события в Минском метро показали полную несостоятельность милицейского корпуса. И не рядовых милиционеров в этом надо винить. Виноваты высшие милицейские начальники. Виноваты генералы Юрий Сиваков и Борис Тарлецкий, виноваты их коллеги с большими звездами на погонах. Но еще больше виноваты те, кто стоит над ними. Те, кто своей политикой утверждал: главное для представителей сил правопорядка — не раздумывая ни мгновения, обрушить дубинки на головы митингующей оппозиции, до крови, до полусмерти избить молодых и старых, женщин и мужчин — всех, кто выходит на акции протеста с бело-красно-белыми флажками.

Этому милицию учили. На это находили и средства, и деньги. А вот к своим профессиональным обязанностям относились спустя рукава. Не потому ли в течение десяти дней двое милиционеров в Минске погибли от рук преступников, а один был разоружен криминальными элементами? Не потому ли, по словам очевидцев трагедии в метрополитене, милиция сама была растеряна и действовала не самым лучшим образом?

По официальным сообщениям, порядок на празднике, с которого и началась трагедия, обеспечивали 150 милиционеров. Это огромная сила, которая, действуй она профессионально, вполне могла предотвратить трагедию. И если этого не случилось, грех списывать все на стихию и разогретых пивом девчат и парней. Или же милиции было значительно меньше, или, если верить официальным данным, то это только лишнее доказательство ее непрофессиональности. Говорят, что сотрудников органов охраны порядка у нас столько же, сколько и в Польше, но где населения в четыре раза больше. Так может надо научиться брать качеством, а не количеством?

Кстати, трагедия случилась на Троицу. В тот самый святой день, когда люди отдыхают, думают и о земном, и о возвышенном. Нужно ли было именно в этот день устраивать в самом центре города "танцы-шманцы"? И куда смотрел владыка Филарет, который всегда, когда это ему нужно, находит время, чтобы оказаться рядом с президентом, сказать слово Божье?

Конечно, легче всего провести эту огромную беду по графе "дикая случайность". Очень удобная формулировка для власть предержащих. На случайность легко списать бесконтрольность, непрофессионализм и некомпетентность. Но ни на что не спишешь насилие, которое стало в нашей стране привычным. Привычным настолько, что судьба Тамары Винниковой, Михаила Чигиря, Юрия Захаренко и многих других не вызывает огромной волны возмущения. Воспитание ненавистью и страхом — в этом наша власть преуспела за пять лет больше всего. И именно в этом и надо искать корни "Белорусской Ходынки".

**Владимир ГЛОД.**

## На думку шэрагу беларускіх дзеячаў культуры, адсутнасць у дзяржаве нацыянальнай ідэі адмоўна адбіваецца на маральным стане грамадства

Пра гэта гаварылі ўдзельнікі пасяджэння "круглага стала" ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы, абмяркоўваючы праблему адказнасці інтэлігенцыі за будучыню Айчыны.

Паводле слоў намесніка старшыні Саюза мастакоў Беларусі Уладзіміра Басалыгі, ніколі прагляды мастацкіх выстаў, нават пры вялікай колькасці наведвальнікаў, не заканчваліся якімісьці надзвычайнымі здарэннямі, што мелі месца падчас разнастайных музычных шоу. Асабліва ўразіла мастака тое, што ў дзень Сёмухі "можна было адначасова назіраць высокага начальніка, які стаіць са свечкай у царкве, і нечакана дазволенае свята піва".

У. Басалыга лічыць, што ў сітуацыі, калі падлеткам было дазволена выпіць дзве-тры бутэлькі піва, трагедыя, якая адбылася 30 мая ў Мінску не з'яўляецца выпадковай. Закрануўшы праблему інтэграцыі з Расіяй, мастак заўважыў, што "ніколі не адчуваў сваёй радзімай дзяржаву ад Брэста да Сахаліна", таму хоча жыць у незалежнай краіне і яго "трывожыць магчымасць уваходжання Беларусі ў вялікую дзяржаву".

Паводле сцвярджэння мастака Уладзіміра Тоўсціка, "калі мы жывём у незалежнай суверэннай дзяржаве, Нацыянальны мастацкі музей павінен мець збор твораў нацыянальнага мастацтва са старажытных часоў да нашых дзён, а не з'яўляцца своеасаблівым паўторам збораў Музея выяўленчага мастацтва імя А.Пушкіна ў Маскве". Пры адсутнасці ў дзяржаве нацыянальнай ідэі не можа быць і гаворкі аб якойсьці адказнасці мастака перад грамадствам, заўважыў У.Тоўсцік. Ён лічыць, што немагчыма сумясціць веру ў Бога з бязбожнымі ўчынкамі, калі пад уплывам масавага псіхозу ўзбуджаныя людзі затоптваюць адзін аднаго.

Паводле слоў мастака Леаніда Хобатава, можна ганарыцца тым, што дзякуючы дзяржаўнай дапамозе спорту ў краіне з'явіліся зоркі сусветнага класа. Разам з тым, дзяржава не аказвае гэткай жа падтрымкі прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі, якія з'яўляюцца не меншым нацыянальным гонарам любой цывілізаванай краіны.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка не задаволіў прашэнне старшыні Мінгарвыканкама У.Ярмошына аб адстаўцы

2 чэрвеня старшыня Мінскага гарвыканкама Уладзімір Ярмошын накіраваў прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку прашэнне аб адстаўцы. Сваю просьбу ён патлумачыў цяжкім маральным грузам адказнасці сталічнага кіраўніцтва за трагічныя падзеі 30 мая.

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, А.Лукашэнка не задаволіў просьбу У.Ярмошына аб адстаўцы, заявіўшы пры гэтым наступнае: "Мы ўсе — ад улад розных узроўняў да ўдзельнікаў фатальных падзей — адказныя за тое, што адбылося, і задача ўладных структур краіны зрабіць усё, каб дапамагчы сем'ям пацярпелых, зрабіць правільныя высновы і вынесці ўрокі з трагедыі".

У той жа дзень адбылася асабістая сустрэча прэзідэнта з кіраўніком гарвыканкама, падчас якой абмяркоўваліся трагічныя падзеі 30 мая і некаторыя пытанні сацыяльна-эканамічнага характару.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**



## Адзін з кіраўнікоў Беларускага Хельсінкскага камітэта Валерый Костка дапытаны ў Камітэце дзяржаўнай бяспекі

Старшыня аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта па Мінску і Мінскай вобласці Валерый Костка быў дапытаны ў якасці сведкі ў следчым упраўленні КДБ Беларусі.

Аб падрабязнасцях допыту В.Костка і Г.Паганяйла паведамілі на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры БХК. В.Костка быў выкліканы ў КДБ як сведка па фактах публікацыі ў прэсе дакумента аб распрацоўцы беларускімі ўладамі захадаў па зрыве выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і інтэрв'ю, дадзенага ім на гэтую тэму ў сакавіку бягучага года. Дакумент, які з'явіўся ў друку, прадугледжваў стварэнне каардынуючага штаба для барацьбы з апазіцыяй, распрацоўку і прыняцце шэрагу дэкрэтаў і ўказаў пад выглядам барацьбы з экстрэмізмам, што абмяжоўваюць правы і свабоды грамадзян і гэтак далей. КДБ ва ўзаемадзеянні з пракуратурай павінны былі ажыццявіць захады папераджальна-прафілактычнага характару ў дачыненні радыкальна настроеных лідэраў і актывістаў кампаніі па выбарах прэзідэнта, выяўляць крыніцы і каналы фінансавання выбараў і перакрываць іх, узмацніць прапускны рэжым і ўнутраны распарадак на прадпрыемствах і ва ўстановах, адмовіць у перарэгістрацыі радыкальных партый. Камітэту дзяржаўнай бяспекі даручалася "выкарыстоўваць дадзеную сітуацыю з мэтай разлажэння і кампраметацыі згаданых структур".

У КДБ В.Костка адказаў на шэраг пытанняў аб крыніцах атрымання інфармацыі аб існаванні такога дакумента.

Нагадаем, што напрыканцы красавіка па гэтай справе быў затрыманы для допыту журналіст газеты "Навіны" і радыё "Свабода" Алег Груздзіловіч.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Кіраўніцтва УУС Гомельскага аблвыканкама робіць карэкціроўку працэдуры правядзення масавых мерапрыемстваў у Гомелі

Трагедыя ў падземным пераходзе сталічнай станцыі метро "Няміга" паслужыла для кіраўніцтва УУС Гомельскага аблвыканкама падставай для абмеркавання новай працэдуры правядзення масавых мерапрыемстваў у Гомелі. Начальнік УУС вобласці Аляксандр Рак даручыў дапрацаваць тыпавыя планы па ахове грамадскага парадку падчас масавых мерапрыемстваў і замацаваў адказнымі за месцамі іх правядзення начальнікаў раённых аддзелаў і асноўных службаў міліцыі.

У прыватнасці, пад асаблівы кантроль будуць узяты ўсе спартыўныя спаборніцтвы, і асабліва футбольныя матчы. Таксама вырашана на летні перыяд узмацніць нарады АМАП у раёне пешаходнага моста праз раку Сож у гарадскім парку культуры і адпачынку. Справа ў тым, што на гэтым мосце ўжо двойчы ў сярэдзіне 70-х і 80-х адбываліся інцыдэнты, падобныя да мінскага здарэння.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Пр. Ефрасінні, Марыі, Адрыяна, Аляксандра, Андрэя, Васіля, Давыда, Данілы, Дзмітрыя, Івана, Ігната, Ісая, Канстанціна, Касьяна, Лявона, Мікіты, Міхаіла, Пятра, Рамана, Севасцьяна, Сільвестра, Фёдара, Якава.
К. Валерыі, Баніфаца.

ДЗЕНЬ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

ЧЭРВЕНЬ
5
'99 СУБОТА

Усход 4.41
Захад 21.36
Даўж. дня 16.55

Апошн. квадра 7 чэрвеня
Усход 2.11
Захад 11.40

## Савет міністраў Беларусі ўнёс змяненні і дапаўненні ў палажэнне аб выплаце дапамогі непаўналетнім вязням

Пастановай Савета міністраў Беларусі ўнесены змяненні і дапаўненні ў палажэнне аб выплаце фінансавай дапамогі грамадзянам, якія пацярпелі ад нацыянал-сацыялісцкіх праследаванняў у гады другой сусветнай вайны. Аб гэтым паведаміў намеснік старшыні праўлення Беларускага рэспубліканскага фонда "Узаемаразуменне і прымірэнне" Міхаіл Богдан на прэс-канферэнцыі "Дзеці Беларусі і другая сусветная вайна".

У адпаведнасці з гэтай пастановай, са сродкаў фонду будуць рабіцца выплаты дзецям, якія сталі інвалідамі да паўналецця і атрымліваюць пенсію з выпадку страты карміцеляў — ваеннаслужачых, загінуўшых у перыяд Вялікай Айчыннай вайны; інвалідам з дзяцінства з-за ранення, кантузіі або калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны або з іх наступствамі, а таксама грамадзянам, у тым ліку дзецям, прымусова вывезеным на тэрыторыю Беластоцкай вобласці (цяпер — Беластоцкае ваяводства ў складзе Польшчы) і ў Прыбалтыку.

Намеснік старшыні фонду нагадаў, што дапамога са сродкаў фонду выплачваецца былым непаўналетнім вязням нацысцкіх канцлагераў, турмаў, гета, лагераў на пярэднім краі нямецкай абароны, спецыяльных дзіцячых лагераў па збору крыві і правядзенню медыцынскіх эксперыментаў, лагераў для ваеннапалонных і грамадзянскага насельніцтва...

Паводле слоў Міхаіла Богдана, на 1 чэрвеня 1999 года фондам "Узаемаразуменне і прымірэнне" зроблены фінансавыя выплаты 67 212 былым непаўналетнім вязням, у тым ліку тым, хто нарадзіўся ў месцах прымусовага ўтрымання падчас праследавання іх маці.

**Марат ГАРАВЫ.**

Из штаб-квартиры НАТО

*Джеми Ши:*

## "НАТО пытается выиграть войну не только с воздуха..."

На днях я в очередной раз посетил штаб-квартиру НАТО. Пресс-конференцию вели знакомые читателям "Народной воли" **Джеми Ши**, политический докладчик НАТО и генерал **Вальтер Йертс**, представляющий немецкие военно-воздушные силы.

**Джеми Ши:** "Я всегда говорил и говорю, что НАТО пытается выиграть войну не только с воздуха ( а что мы ее выиграем — в этом нет сомнения ), но и за столом переговоров. Все мы понимаем, что без присутствия миротворческих сил в районе конфликта возвращение беженцев к себе на родину невозможно. НАТО сделало первый шаг по организации такого ввода: вчера в штаб-квартире НАТО была организована конференция, в которой приняли участие представители всех 19 стран — членов НАТО, а также 12 стран-партнеров, участвующих в программе "Партнерство ради мира". На конференции были обсуждены проблемы ввода войск в Косово, а также разработана концепция этого ввода".

Далее Джеми Ши рассказал о мерах, предпринимаемых НАТО по подготовке к вводу в Косово этих войск, концентрирующихся в настоящее время в Албании и Македонии, на границе с Косово. "Состав этих сил интернационален: каждая страна — член НАТО сделала свой вклад и прислала свои части сухопутных войск в зону конфликта".

"По прибытии наших миротворческих сил в Косово народ, что называется, почувствует разницу — разницу между двумя типами войск: войск миротворческих, отстаивающих интересы косовских албанцев и всего мирового сообщества, и войск захватнических, представляющих интересы преступного диктаторского режима в Сербии, войск, способных расстреливать безоружных людей, насиловать женщин, сжигать дома".

"Я не сомневаюсь в том, что вскоре после ввода наших войск жители Косово поймут ту истину, что НАТО — не враг, НАТО — друг".

**Генерал Вальтер Йертс,** как обычно, в начале своего выступления перечислил цели, которые уничтожили натовские истребители за последние 24 часа. Среди них можно выделить такие: 32 (!) артиллерийских орудия, 9 БМП, 6 БТР, площадка для запуска ракет типа "Земля—Воздух", комплекс ПВО в районе Нови Сад (Сербия), ретрансляционные центры, склады с боеприпасами, силовые трансформаторы и т.д.

Генерал отметил, что из 197 вылетов с целью нанесения ударов 150 были осуществлены в районе горы Пастрик на западе Косово, где наблюдается большое скопление боевой техники и войск противника. "Вся техника и личный состав одеты в камуфляж, что значительно облегчает нашим пилотам проблему идентификации целей".

Генерал Йертс также отметил факты тяжелых, кровопролитных боев между ОАК и сербскими вооруженными формированиями и милицией на границе Косово—Албания.

"За последние сутки НАТО осуществил 575 вылетов, из которых 197 — с целью нанесения ударов по военным объектам и 70 — с целью подавления систем ПВО противника".

"4 ракеты "Земля—Воздух" югославской армии запущены по самолетам НАТО за последние сутки. Но, как и прежде, единственный результат этих запусков — страх, нагоняемый на местных ворон".

**Некоторые вопросы:**

"Как вы различаете с большой высоты подразделения сербской армии и Освободительной армии Косово (ОАК), прежде чем наносить удар?"

**Джеми Ши:** "Все очень просто: у ОАК нет танков, нет орудий, нет ракетных установок, нет БМП, нет БТР. Все "тяжелые атрибуты" — это атрибуты нашего врага — югославской армии".

"Существует информация о том, что НАТО начало сотрудничать с ОАК. Подтвердите или опровергните эту информацию".

**Вальтер Йертс:** "Если НАТО и оказывает помощь ОАК, то только косвенную: Вы сами понимаете, что после нашего удара разбитые и деморализованные части войск Милошевича атаковать гораздо проще. Однако спешу повторить, что НАТО осуществляет свою миссию и прямых контактов с ОАК у нас нет".

**Александр СИЛИЧ,**
**специально для "Народной воли".**

Брюссель.

## Яшчэ адна камісія

Праекты пратакола аб стварэнні камісіі па правах чалавека Саюза Беларусі і Расіі і палажэння аб гэтай камісіі падрыхтаваны ў выніку беларуска-расійскіх кансультацый паміж знешнепалітычнымі ведамствамі дзвюх краін, якія прайшлі днямі ў Маскве з удзелам прадстаўнікоў Выканаўчага камітэта Саюза. Аб гэтым паведаміў на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Мікалай Барысевіч, нагадаўшы, што стварэнне камісіі па правах чалавека прадугледжваецца артыкулам 11 Дагавора паміж Беларуссю і Расіяй аб роўных правах грамадзян ад 25 снежня 1998 года. Ствараемая камісія будзе ажыццяўляць назіранне за выкананнем абавязацельстваў па правах чалавека ў межах згаданага дагавора.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## Чувство

По телевизору без звука показывали, как падают высотные здания. Медленно и красиво. Этаж за этажом. В считанные секунды на месте высотника неизвестно откуда возникало мягкое пушистое серое облако. Через некоторое время оно плавно рассеивалось, а на его месте появлялась гора обломков. И так много кадров подряд. Все рушилось, рушилось, рушилось... Оставалась только пыль и небо...

Знакомый актер одного из московских театров, смотревший телевизор вместе со мной, образно подметил: "Это то, что сейчас происходит в Беларуси".

То, что в Беларуси творится что-то неладное, интуитивно чувствуют все без исключения. Неуверенные в завтрашнем дне школьники, брошенные на произвол судьбы по распределению студенты, истерично трясущие немощными кулачками старики, улыбчивые иностранцы и просто утомленные жизнью гости из ближнего зарубежья. Даже государственные чиновники нет-нет да и брезгливо передернут плечами. Причем странное тревожное впечатление возникает не после посещения магазинов, ресторанов, даже не после очередного выступления президента. Какой-то непонятно-тревожный дурман витает в воздухе, царит во всей атмосфере. Его ощущаешь кожей...

Заасфальтированные души знакомых, похотливые взгляды мужчин, курящие восьмиклассницы, разлагающаяся страна, откровенная ложь государственных мужей, до нельзя уверенный в своей правоте президент, "памяркоўнае беларускае насельніцтва".

Вроде бы все, как обычно. Как всегда. Такое же небо, такое же солнце, трава, лето. Каждому по-своему плохо и неуютно. Все заняты собой... Изо дня в день, не в состоянии что-то изменить, с тяжелым камнем на сердце засыпают, а с первыми лучами солнца встают, улыбаются зеркалу и как ни в чем не бывало бредут на работу тысячи людей. С безразлично-черствым выражением лица, черствым сердцем, черствым взглядом, черствыми мыслями... Ощущая при этом в воздухе не запах, не какую-то напряженность, а что-то напоминающее начало грозы: хотя вокруг как будто бы тихо и спокойно, но дышать тяжело, вот-вот хлынет ливень...

Однажды, конечно, кто-то не выдержит... А пока ничего нельзя изменить. Точнее, никто не может ничего изменить. Практически всех устраивает подобная модель стороннего существования. Хотя все кожей, сердцем, душой, сознанием ощущают, что что-то не то. Только вот что?..

**Марина КОКТЫШ.**

Трывожна!

## Растуць спажывецкія цэны

Па выніках мая 1999 года рост спажывецкіх цэн у Беларусі складзе каля 8,5 працэнта. Аб гэтым паведаміў старшыня камітэта цэн пры Міністэрстве эканомікі краіны Уладзімір Адашкевіч на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Парушэнне тэндэнцыі зніжэння тэмпаў інфляцыі сёлета (з 16,6 працэнта ў студзені да 7,4 працэнта ў красавіку) звязана, паводле яго слоў, з двухкратным павышэннем у маі памеру мінімальнай зарплаты і тарыфных ставак, што пацягнула за сабой павелічэнне грашовай масы. Афіцыйны індэкс майскай інфляцыі будзе аб'яўлены Міністэрствам статыстыкі і аналізу напрыканцы першай дэкады чэрвеня.

Паводле разлікаў спецыялістаў, у чэрвені цэны вырастуць на 6—6,5 працэнта. Асноўным інфляцыйным фактарам, на думку У.Адашкевіча, стане плодаагароднінная прадукцыя. Асобных відаў агародніны, нарыхтаваных летась (бульбы, буракоў і морквы), ужо не хапае для забеспячэння патрэб насельніцтва, з-за чаго яны даражэюць значнымі тэмпамі. Дэфіцыт айчыннай прадукцыі вымушае імпартаваць агародніну з Галандыі, Польшчы і іншых еўрапейскіх краін, што таксама адбіваецца на цэнах.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

